№ 1 (25)
Студзень 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



# Час выбару...

Новы 1999 год павінен быў прайсьці ў Беларусі пад знакам выбараў. Паводле Канстытуцыі 1994 году, у гэтую вясну заканчваюцца паўнамоцтвы дэпутатаў мясцовых саветаў і Вярхоўнага Савету, а ўлетку — прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі. Так, тэрміны легітымнасьці заканчваюцца, але ці адбудуцца выбары? Адказаць адназначна на гэтае пытаньне ў Беларусі, пэўна, ня возьмецца ніхто. Дзеяньні прэзідэнта Беларусі настолькі непрадказальныя, што мажлівы любы варыянт разьвіцьця падзеяў. У тым ліку і аб'яўленьне, па прыкладзе прэзідэнта Казахстана Н. Назарбаева, "датэрміновых" прэзідэнцкіх выбараў.

Напрыканцы мінулага году, прынамсі, нейкія яснасьць і пэўнасьць былі. Абапіраючыся на вынікі непрызнанага ў дэмакратычным сьвеце рэферэндуму 1996-га году, у Беларусі быў прыняты новы закон аб выбарах, і прэзідэнцкая каманда абвясьціла аб пачатку "трохгодкі выбараў", маючы на ўвазе, што ў 1999-ым годзе адбудуцца выбары ў мясцовыя саветы, у 2000-ым — у гэтакзваны Нацыянальны сход (утвораны А. Лукашэнкам "парламент" са сваіх прыхільнікаў замест легітымнага Вярхоўнага Савету), а ў 2001-ым — прэзідэнта дзяржавы. А.Лукашэнка любіць усё савецкае, і таму нездарма беларускі новатвор "трохгодка" гэтак нагадвае бальшавіцкі — "пяцігодка". Выбары ў мясцовыя саветы былі прызначаныя на 4 красавіка. Падчас іх меркавалася "абкатаць" новы закон

(Працяг на стар.2-3)

## Хроніка

*27 і 28 сьнежня 1998 г.* у Гродна Гарвыканкам адмовіў Свабоднаму прафсаюзу ў правядзеньні жалобнага мітынгу ў сувязі з забойствам шасьці гарадзенскіх прадпрымальнікаў у Расіі. Па словах старшыні прафсаюзу прадпрымальнікаў Валерыя Леванеўскага, за гэтай адмовай стаіць жаданьне ўладаў спусьціць на тармазах праблему бясьпекі тых, за кошт каго папаўняецца гарадскі бюджэт, замаўчаць трагедыю, пакінуць без дапамогі сем'і забітых.

*31 сьнежня 1998 г.* выканаўчы камітэт г. Смаргоні Гродзенскай вобласьці вынес рашэньне, паводле якога было зьмененае месца правядзеньня пікету — замест пляцоўкі ў цэнтры гораду быў прапанаваны гарадскі парк. У заяве арганізатар пікету прыватны юрыст Аляксандр Дзергачоў пісаў: "18 сьнежня 1998 г. па першай праграме ГРТ дэманстравалася перадача «Падрабязнасьці» з удзелам прэзідэнта Беларусі. У гэтай перадачы прэзідэнт выказаўся, што вядомыя беларускія палітыкі Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч абяцалі выселіць з Беларусі людзей рускай нацыянальнасьці. Я з іх вуснаў нічога падобнага ніколі ня чуў, а таму лічу, што выказваньне прэзідэнта не адпавядае рэчаіснасьці, падрывае рэпутацыю руху і партыі БНФ, сябрам якой я зьяўляюся. Грунтуючыся на вышэйвыкладзеным і ў адпаведнасьці з Законам «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях і пікетаваньні», маю права весьці пікетаваньне. Мэта: выказаць пратэст супраць выказваньня прэзідэнта Беларусі ў адносінах да Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча. Месца правядзеньня: пляцоўка насупраць гастраному «Юбілейны» у г. Смаргонь. Час правядзеньня: 10 студзеня 1999 г. з 10 да 13 гадзінаў".

(Працяг на стар.6-7)

# Вуліца на "яднаньне" рэагуе па-свойму

***25 сьнежня, пасьля падпісаньня ў Маскве чарговых папераў аб намерах аб'яднаньня Беларусі і Расіі ў саюзную дзяржаву, у Мінску адбыўся стыхійны мітынг...***

Падпісаўшы ў Маскве дамовы аб "далейшым яднаньні" з Расійскай Федэрацыяй, прэзідэнт Лукашэнка тут жа безапеляцыйна заявіў: гэтыя дамовы "ня маюць патрэбы ў пацьвярджэньні, у волевыяўленьні" народаў абедзьвюх краінаў. Аднак многія беларусы ўспрынялі такі "калядны падарунак" як асабістую абразу. Вельмі сімвалічна выглядае той шок, які атрымалі 25 сьнежня мае знаёмыя. Яны былі на сьвяточнай імшы ў Чырвоным Касьцёле, калі на пэйджэр аднаму з іх прыйшло паведамленьне пра падзеі ў Маскве...

Не пасьпеў дасохнуць атрамант на подпісах Лукашэнкі ды Ельцына, як на мінскі праспэкт Скарыны ўжо выліўся стыхійны пратэст. Незадаволеных і абураных "аб'яднаньнем" было ў той дзень шмат. Але нават для іх стала нечаканасьцю тое, што каля 20 чалавек перакрылі аўтамабільны рух на праспэкце ў раёне пляцу Якуба Коласа. Паказальная рэакцыя на раптоўны пікет 20-ці сьмельчакоў міліцыянтаў і грамадскасьці. Міліцыя сьпярша нават разгубілася, а мінакі на вуліцы ды кіроўцы спыненых аўтамабіляў шчыра дзякавалі пікетоўшчыкам і з захапленьнем пыталіся: "Што гэта за людзі?" Толькі адзін кіроўца BMW зьбіў сваёй машынай удзельніка акцыі, сябра БНФ Лявона Сакольчыка: пасьля размовы з міліцыяй ён паехаў проста на пікет. Праз паўгадзіны пасьля пачатку акцыі міліцыяй былі затрыманыя дзевяць яе ўдзельнікаў, на якіх склалі пратаколы ў Савецкім РАУСе сталіцы, а потым трымалі тры выходныя дні – у сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку на Акрэсьціна. Праўда, былі адпушчаныя ў ноч на 26 сьнежня трое затрыманых жанчын: Любоў Лунёва, дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Людміла Гразнова і прадстаўніца Аб'яднанай грамадзянскай партыі Галіна Юрына. Замест турмы правеў каталіцкія Каляды ў нейрахірургічным адзьдзяленьні дзевятай мінскай бальніцы дэпутат і журналіст Валеры Шчукін (у яго балела галава ад ранейшых пабояў міліцыі 7 сьнежня, а ў бальніцы высьветлілася, што ў яго чэрапна-мазгавая траўма). Астатнія затрыманыя тры дні сядзелі ў камеры разам з бамжамі.

Потым распачаліся суды. Спаслаўшыся на рамонт у будынку Савецкага раённага суда, улады правялі судовыя працэсы над апазіцыянерамі ў раённым адзьдзеле міліцыі і апорным пункце на Камароўскім рынку (сам рынак у той дзень быў зачынены на выходны дзень – панядзелак). Прадстаўнікоў СМІ і праваабаронцаў на суды не дапусьцілі. На "Камароўцы" перад уваходам у міліцэйскі пастарунак стаяў кардон міліцыі, а з рацыяў ахоўнікаў несьліся загады:"Нікога не пускаць!" Па словах аднаго з міліцыянтаў, загад аддаў намесьнік начальніка Савецкага РАУС. Судзьдзя Іна Шэйко вынесла папярэджаньне праваабаронцы Любові Лунёвай. Актывісткі грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя-97" Людміла Гразнова і Галіна Юрына аштрафаваныя на 52,5 мільёны рублёў. Судзьдзя Людміла Савасьцян наклала штраф у 5 мільёнаў на яшчэ аднаго ўдзельніка акцыі – сябра БНФ Віктара Фурмана. Яе ж рашэньнем былі асуджаныя на 5 сутак адміністратыўнага арышту 67-гадовы Алесь Карызна, 50-гадовы Уладзімір Руснак, 48-гадовы Віктар Марозаў (таксама сябры БНФ). На такі ж тэрмін трапіў за краты і Зьміцер Бандарэнка – кіраўнік Фонду падтрымкі незалежнай прэсы. Увогуле, нельга не заўважыць, што ў пратэсьце супраць здрады інтарэсаў Беларусі найбольш радыкальна праявілі сябе менавіта людзі сталага веку: у стыхійнай акцыі амаль ня ўдзельнічала моладзь. Гэта нязвыкла, і можна толькі ўяўляць, якія формы можа прыняць беларускі студэнцкі пратэст...

Падчас акцыі 25 сьнежня меліся спробы затрымаць журналістаў. Быў схоплены, але пазьней адпушчаны карэспандэнт газеты "Беларуская маладзёжная" Сяргей Пульша. Калегі і мінакі ледзь адбілі ў міліцыян-

# Час выбару...

*(Пачатак на стар. 1)*

аб выбарах, паводле якога дэпутатам нават найніжэйшага органу ўлады ня можа стаць грамадзянін, які мае адміністратыўныя пакараньні. Паколькі практычна ўсе дзеячы апазіцыі за ўдзел у мітынгах, пікетах, дэманстрацыях прыцягваліся да адказнасьці: караліся штрафамі і арыштамі, яны аўтаматычна былі пазбаўленыя права стаць кандыдатамі ў дэпутаты. Улады нават ня ўтойваюць прычыну зьяўленьня такога "пункціка" у законе аб выбарах. Адзін з распрацоўшчыкаў яго, функцыянер Нацсходу, сп. Лазовік назваў яго "мерай палітычнай барацьбы", г. зн. спосабам адсекчы апазіцыю ад магчымасьці ўдзельнічаць у фармаваньні органаў улады.

Зрэшты, дэмакратычная апазіцыя, якая дагэтуль не прызнае легітымнасьці пралукашэнкаўскага Народнага сходу, а, значыць, і законаў, прынятых ім, удзельнічаць у прэзідэнцкай "трохгодцы выбараў" і не зьбіралася. Дэпутаты легітымнага Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня, якія працягваюць сваю дзейнасьць, кіруючыся Канстытуцыяй 1994-га году, на сваім пасяджэньні 10 студзеня адзначылі, што пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Лукашэнкі, на які ён быў абраны, заканчваецца ў траўні гэтага году, і, у адпаведнасьці з законам, прызначылі выбары прэзідэнта Беларусі на 16 траўня. Створаная Выбарчая камісія, якая зоймецца рэгістрацыяй кандыдатаў у прэзідэнты краіны і ўласна правядзеньнем выбараў.

Як будзе сябе паводзіць у гэтай сітуацыі Аляксандр Лукашэнка, які разумее, што, нягледзячы ні на якія "рэферэндумы", для ўсёй сусьветнай супольнасьці тэрмін ягонай легітымнасьці як кіраўніка дзяржавы скончыцца ўжо сёлета, а ня праз два гады? Пасьля "трыумфу" Назарбаева ды пастаянных нашэптваньняў-супакаеньняў, што калі б выбары адбыліся сёлета, ён бы іх пераканаўча выйграў, ці не шкадуе ён, што паслухаў сваіх дарадцаў і спакусіўся на рэферэндумны "працяг паўнамоцтваў"... Але — гэта ягоныя праблемы: паступацца "прынцыпамі" ці не.

Ёсьць, праўда, і іншы варыянт разьвіцьця падзеяў: А.Лукашэнка можа паспрабаваць сілавым шляхам "разабрацца" з непадуладнымі дэпутатамі. Дзеля гэтага ўжо падводзіцца адпаведная "прававая" база. Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь заявіла, што дзеяньні дэпутатаў "уступаюць у супярэчнасьць з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь" і "могуць расцэньвацца не інакш як спроба захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, намер дэстабілізаваць абстаноўку ў грамадстве, справакаваць масавыя беспарадкі". Пракуратура папярэдзіла аб крымінальнай і адміністратыўнай адказнасьці за "падобныя супрацьпраўныя дзеяньні". Зразумела, пралукашэнкаўская пракуратура (дарэчы, усе функцыянеры яе прызначаныя самім прэзідэнтам) па-іншаму адрэагаваць і не магла. Не заўважыць рашэньне дэпутатаў, значыць прызнаць факт, што А. Лукашэнка ў 1996 годзе захапіў уладу ў Беларусі неканстытуцыйным шляхам. Менавіта гэтак лічыць Вярхоўны Савет, і пазіцыя ягоная падтрымліваецца ва ўсім цывілізаваным дэмакратычным сьвеце.

Такім чынам, народ Беларусі зараз пастаўлены перад дылемай: у якіх выбарах удзельнічаць? У аб'яўленых прэзідэнцкай камандай альбо прызначаных легітымным Вярхоўным Саветам? На баку прэзідэнта магутная "вер-

таў аператара ГРТ Зьміцера Завадскага, у якога хацелі адабраць відэакасету з запісам акцыі.

У апошні дзень году ледзь не патрапіў у турму і дэпутат ВС Валеры Шчукін, якога раніцай выпісалі са шпіталю. Калі ён выйшаў на ганак, яго ўжо чакалі міліцыянты. Дэпутата пасадзілі ў машыну і адвезьлі ў суд, але працэс быў адкладзены толькі дзеля таго, што В.Шчукін запатрабаваў адваката. Новы год Валеры Аляксеевіч сустрэў дома з роднымі, але ўжо ў першы працоўны дзень 1999 году – 4 студзеня – яго чакала судовае разьбіральніцтва і арышт...

Такім чынам, рэжым адразу паказаў: "яднаньне з братняй Расіяй" будзе весьціся метадам ня толькі хлусьні з тэлевізіі наўздагон дамовам за сьпінай народа, але і трывіяльнага кулака. Нязгодных жыцьць у новай імперыі чакаюць зьбіцьцё, краты, вошы, астранамічныя штрафы. Чым далей заходзіць "яднаньне" – тым мацнеюць рэпрэсіі ў Беларусі. Сітуацыя абвастраецца эканамічным крызісам, пустымі паліцамі крамаў, нявыплачанымі заробкамі і блізкім канцом легітымнасьці прэзідэнцтва А.Лукашэнкі.

**Тацяна СЬНІТКО**

---

тыкаль", усе ўладныя структуры, газеты, радыё, тэлебачаньне...і караючыя органы. На баку дэмакратычнай апазіцыі — гонар, годнасьць, праўда... і надзея на зьмены жыцьця да лепшага.

Сілы і мажлівасьці ў бакоў, якія супрацьстаяць адзін аднаму, вядома, няроўныя. Афіцыйныя СМІ, цалкам падпарадкаваныя Аляксандру Лукашэнку, пра рашэньне Вярхоўнага Савету ці зусім не паведамілі, ці пазьдзекаваліся з яго ў сваіх каментарах. А таму аб'яўленьне выбараў прэзідэнта Беларусі сёньня важна найперш як факт: ёсьць у нашай краіне людзі, якія нягледзячы на ўціск і беззаконьне па-ранейшаму цьвёрда стаяць на дэмакратычных пазіцыях і працягваюць змаганьне з дыктатарскім рэжымам. Ну, а Час выбару для народа — зьява перманентная, паўтаральная. У грамадзянаў Беларусі зьявілася мажлівасьць зрабіць яго ўжо сёлета...

**Андрэй НАЛІВА**

# Як гэта было

## Нататкі відавочцы

***Спадару Аляксандру Карызну — 67 гадоў. Ён пенсіянер, прыхільнік Беларускага Народнага Фронту. 25 сьнежня мінулага году, пасьля паказу па тэлевізіі прэзідэнтаў Расіі і Беларусі, якія паведамілі пра падпісаньне чарговых дакументаў аб інтэграцыі сваіх краінаў у адную дзяржаву, ён не ўстрымаўся і выйшаў на вуліцу Мінску. Далей паслухаем расповяд яго самога...***

...На душы было кепска. Вырашыў паехаць на пляц Якуба Коласа, дзе апошнім часам праходзілі акцыі апазіцыі. Выйшаў з метро без дзесяці хвілінаў сем гадзінаў вечару. На ўскрайку пляцу, каля кавярні, бачу купку людзей з плакатамі і бел-чырвона-белым сьцягам. Далучаюся да іх. Як і думаў, людзі сабраліся тут, каб выказаць свае адносіны да падпісаных у Маскве дакументаў. Нас пакуль няшмат, у большасьці людзі сталага веку, і ўсе настроеныя рашуча. Без пяці хвілінаў сем ланцужком выходзім на праезную частку праспекту Скарыны. Міліцыі не відаць. Прапускаем два тралейбусы, таксоўку... Вакол пачынае зьбірацца народ, замітусіліся і міліцыянты. Непадалёку ад мяне, на тратуары, зьяўляецца мажны падпалкоўнік, які паводзіць сябе як просты назіральнік. На нас, дзеля прарыву ланцужка, імчыць машына з трыма антэнамі. Я пасьпяваю вывернуцца ад яе, а мой сусед па ланцужку па прозьвішчы Сакольчык не пасьпявае, трапляе пад колы. Чую ягоны крык-стогн. Кідаюся да падпалкоўніка, прашу, каб выклікаў "хуткую дапамогу" альбо затрымаў шафёра-злачынцу. У адказ — ніякага рэагаваньня. Машына зьнікае, а пацярпелага людзі выносяць на тратуар. Спыняецца наступная машына і сп. Сакольчыка вязуць у бальніцу. Мяне тым часам хапаюць нейкія людзі і вядуць да "варанка". Сюды ж запіхваюць яшчэ дзьвюх жанчынаў (Юрыну і Лунёву — *рэд.*). На гадзіньніку 19.15. У 19.19. мы ўжо знаходзімся ў Савецкім РАУСе. Усяго затрыманых дзевяць чалавек. Пазнаю дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Л.Гразнову і В. Шчукіна. Зьдзіўляюся, што раней, там, у ланцужку, неяк іх не заўважыў. Астатніх пакуль ня ведаю.

Міліцыянты адразу ж пачынаюць афармляць пратаколы затрыманьня. Пакуль дайшла мая чарга, было ўжо далёка за поўнач. Засталіся мы ўдвух са Шчукіным. Яго абшукваюць, выкідваючы ўсё з кішэняў на стол. Шчукіну раптам робіцца дрэнна, і яго вязуць у бальніцу.

Нарэшце перад сьледчым аказваюся я. Удакладняецца мая асоба і прад'яўляецца абвінавачваньне: удзел у несанкцыянаваным пікеце, перакрыцьцё руху на праспекце, выкрыкі лозунгу "Жыве Беларусь!". Пратакол затрыманьня падпісаць я адмовіўся, бо без акуляраў дрэнна бачыў ды з-за неразборлівага почырку сьледчага прачытаць, што ён напісаў, ня змог.

Жанчынам уручылі позвы ў суд (на 28 сьнежня — *рэд.*), а астатніх — пяцёх мужчынаў — павезьлі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік на вуліцы Акрэсьціна, дзе нам давядзецца прабыць да суда амаль трое сутак — з пятніцы да панядзелка. Памясьцілі нас у адну камеру, дзе ўжо былі вашывы алкаш і два эфіопы. Спрабую заснуць, але не магу: моцна баляць сьпіна і ногі...

Першы дзень, субота, пачаўся са знаёмстваў і прайшоў у размовах. Гадаем: ці пакормяць нас сёньня, гаворым аб праваабарончых арганізацыях "Хартыя-97" і "Вясна-96", спадзяемся, што пра нас не забудуць...

У панядзелак, недзе пасьля дзесяці гадзінаў раніцы, нас павезьлі ў суд Савецкага раёну г. Мінску. Судзьдзя Савасьцян Людміла Аркадзьеўна паведамляе, што я абвінавачваюся ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце і называе нейкі артыкул нейкага кодэксу. Прашу зачытаць непадпісаны мною пратакол затрыманьня, выклікаць сьведкаў і ўнесьці ў справу факт наезду на пікетчыкаў аўтамашыны — судзьдзя на гэта ніяк не рэагуе. Пры-

*(Заканчэньне на стар.6-7)*



# Настаўнік, фермер, падсудны...

## Такі жыцьцёвы шлях Паўла Шалеснага

*I*

Педінстытут Павел Шалесны скончыў у Мінску. Пачынаў працаваць настаўнікам, "вырас" да дырэктара школы. Потым, калі ў СССР загаварылі пра свабоду, нейкі час узначальваў камерцыйную фірму ў Цюмені. Калі ж "рынкавая эканоміка" дасягнула піку папулярнасьці лёс ягоны крута памяняўся. Паколькі Павел быў сынам сваіх бацькоў, звычайных сялянаў з Заходняй Беларусі, ён вярнуўся дадому . Каб стаць культурным сельскім гаспадаром.

Напачатку Шалесны папрасіў у Зельвенскім райвыканкаме 50 гектараў зямлі. Прапанавалі толькі тры і, вядома, пясочак. Праз суд удалося вырваць яшчэ тры з паловай. На пяску нават трава расьці не хацела, таму Павел ад зямлі адмовіўся.

Шуканыя 50 гектараў яму пашчасьціла знайсьці ў суседняй гаспадарцы. Праўда, гэта быў яшчэ толькі 1990-ы год, і фермеру дзяржакт на валоданьне зямлёй не далі. Крэдытамі не дапамаглі таксама.

У рэшце рэшт, Павел Шалесны на свае грошы купіў авечак і неабходную тэхніку. Справы пайшлі нядрэнна. Гаспадарка разьвівалася і багацела. Але паралельна гэтаму расьлі негатыўныя настроі ня самай лепшай часткі мясцовага насельніцтва, якую сацыёлагі называюць маргіналамі, а прэзідэнт электаратам,адным словам, народ агледзеўся, прызнаў у новым чалавеку "чужародны элемент" і пачаў яму "стварaць умовы".

Аднойчы Паўлу спрабавалі прадаць крадзеную салярку. Ён адмовіўся. Гэта "запомнілі". Потым сталі чапляцца мясцовыя п'яніцы і лайдакі: вядома, невыносна бачыць цьвярозага працавітага чалавека побач... Увосень 1993 да яго зьявіліся ажно васьмёра мясцовых з мэтай "павучыць". Шалесны здолеў пераканаць, што вучэньне дорага ім абыдзецца. Адначасова напісаў заяву ў міліцыю – адказу не было.

Лагічна, што тыя васьмёра прыйшлі зноў, збілі Паўла, зьвязалі і пакінулі на ноч ляжаць у двары. Вынік: месяц у бальніцы, страты з-за гэтага, і ліст ад начальніка РАУСу — хуліганы атрымалі грамадскае ганьбаваньне. Яшчэ адзін вынік: мясцовыя маргіналы адчулі падтрымку ўладаў і зусім асьмялелі.

Асабліва лютавалі суседзі. Яны нават не дазвалялі хадзіць каля іх хатаў і праганяць статак. Спрабавалі ўзбудзіць супраць Паўла крымінальную справу – нібыта, за пашкоджаньне пасеваў – ды ў суд чамусьці не зьявіліся.

Канчатковае вырашэньне фермерскай "праблемы" набліжалася...

*II*

Тыя ж суседзі давялі Паўла Шалеснага да турмы.

Увосень 1994 году, у адзін з дзён, суседзі "сьвяткавалі" заканчэньне ўборкі бульбы. Яны былі ўжо на добрым падпітку і, відаць, жарабя Паўла, якое забегла ў іх двор, перапоўніла іх цярпеньне.



У ходзе "баявых дзеяньняў" Павел спрабаваў абараніць сваё жарабя. Суседзі спусьцілі на яго аўчарку, тая пракусіла Паўлу нагу. Ён, у сваю чаргу, параніў сабаку. Сусед узяўся за вілы – Шалесны адбіў напад са стратамі, вілы прабілі яго руку. Усё магло скончыцца для фермера кепска, але ён кінуўся дахаты і выклікаў міліцыю. Яна прыехала, аднак толькі на наступны дзень.

Апергрупа паводзіла сябе неяк дзіўна. Увесь час сышчыкі прасядзелі за сталом у суседзяў. Відавочна, пратакол яны скласьці былі ня ў стане. Да пацярпелага, Паўла Шалеснага, яны так і не зайшлі. Гутарка са сьледчым адбылася толькі на трэція суткі. Той з месца ў кар'ер абвінавацію Паўла ў раненьні сабакі, потым – і суседкі. На заканчэньне прапанаваў ва ўсім шчыра прызнацца. Павел, праўда, не зразумеў – у чым.

Сьледства цягнулася некалькі месяцаў, а 8 сьнежня 1994 году фермера прыехала "браць" група захопу, узброеная аўтаматамі. "Узялі" яго проста на полі і моцна зьбілі. Разам з ім – і жанчыну, якая ў Паўла працавала.

У райадзьдзеле яму прад'явілі абвінавачваньне ў злосным хуліганстве. Што ён мог зрабіць? Толькі даць адвод сьледчаму і напісаць заяву аб зьбіцьці яго міліцыянерамі. Фермера перавялі ў Баранавіцкі СІЗА, дзе ён прасядзеў дзевяць месяцаў.

Потым быў суд. Шалеснага прызналі вінаватым у парушэньні арт. 201 Крымінальнага кодэксу і далі тры гады зьняволеньня. Сядзеў ён у Мінску, у вядомай установе па вул. Апанскага. Ня так і далёка ад Генеральнай пракуратуры і Вярхоўнага суда.

Цікава адзначыць, што галоўнымі сьведкамі на судзе выступілі суседзі (людзі зацікаўленыя) ды псіхічна хворая жанчына. Супраць Паўла сьведчылі людзі, якія хацелі ўбачыць яго ў турме.

Шалесны адседзеў 2 гады і 2 месяцы, яго выпусьцілі па амністыі ў лютым 1997 году.

У фермера была даволі моцная гаспадарка: "Камаз", аўтобус, "Жыгулі", 45 авечак, карова. Калі Павел сядзеў у СІЗА, яму паведамілі: маёмасьць раскрадаецца. Можна ўявіць, што засталося ад гаспадаркі праз два гады. Грузавік захоўваўся ў міліцыі – ад яго застаўся, так бы мовіць, толькі зьнешні выгляд. У вёсцы ж "пастараліся" мірныя сяляне. На гаспадарцы можна было ставіць крыж.

*III.*

На гэтым, зразумела, нічога ня скончылася, бо Павел Шалесны пачаў дабівацца справядлівасьці. Ён зьвярнуўся з зыскавай заявай "Аб

абароне правоў чалавека" і "Аб абароне канстытуцыйных правоў чалавека" у пракуратуру, дзе адказчыкамі выступаюць Зельвенскі райвыканкам і Гродзенскі аблвыканкам. Гэтым, верагодна, ён свой лёс вырашыў.

Далей усё ішло *па накатанай* каляіне. Павел вярнуўся з турмы. Зямлю ў яго ўжо адабралі. Ён з гэтым не пагадзіўся – і які б нармальны чалавек з гэтым пагадзіўся? Вясною калгас пачаў засяваць фермерскую зямлю. Шалесны літаральна стаў на дарозе трактараў з віламі. Раённыя ўлады прывялі супраць яго міліцыю. Паўлу Шалеснаму "засьвяціў" новы тэрмін, на гэты раз па арт. 189: "замах на жыцьцё работніка міліцыі". Была ўзбуджаная крымінальная справа. З Баранавіцкага СІЗА з надзейным чалавекам яму ўдалося перадаць на волю пісьмо. Яно трапіла да мяне. У прыватнасьці, у ім пісалася: "Я зьвярнуўся з заяваю ў Гродзенскае абласное ўпраўленьне ўнутраных спраў. Прасіў знайсьці злачынцаў, якія разрабавалі маю гаспадарку, а таксама паўплываць на тых, хто займаецца гэтым. Адтуль мне ветліва паведамілі, што расьследаваньне *даручана тым, на каго я пісаў* скаргу – работнікам Зэльвенскага РАУС. Натуральна, самі сябе яны не знайшлі".

Аднавяскоўцы раілі Паўлу: "Зьязджаў бы ты куды далей. Цябе ўсё роўна пасадзяць".

Ён вырашыў дабівацца праўды.

Чаго ж ён урэшце дабіўся? Яго выпусьцілі са сьледчага ізалятара. Да суда справа не дайшла. Павел Шалесны – зноў на волі. Праўда, радасьці ад гэтага мала. Ён да гэтуль не разумее, чаму суседзі-вяскоўцы ня проста рабавалі яго гаспадарку, але рабілі гэта без усялякага розуму: хатнія рэчы проста псавалі, а жывёлу рэзалі. Але дзяржава, і найперш мясцовыя ўлады, не паўсталі на абарону фермера, *як павінна было быць*, і мясцовае насельніцтва, адчуўшы безпакаранасьць і маўклівую падтрымку, "папрацавала" на славу...

Чым ён перашкодзіў мясцовай уладзе, што прыйшлося саджаць яго ажно ў турму без усякіх на тое падставаў для яго дагэтуль, скажам так, загадка.

Разгадку даў намесьнік начальніка Зельвенскага РАУСу Аляксандр Губар: "Ён прыносіў шмат клопатаў і ўскаламуціў увесь раён, а зараз яшчэ штосьці патрабуе".

Па-мойму, тут ні даць, ні адняць— застаецца хіба што толькі падзівіцца, што Павел Шалесны ўсё яшчэ на волі, што спрабуе дабіцца пакараньня вінаватых і што ўсё яшчэ верыць у аднаўленьне справядлівасьці.

Верагодна, гэта адбудзецца потым, пры новай уладзе. Сёньняшняя ж людзей прадпрымальных і незалежных саджае ў турму. Як гэта ўжо адбылося з Клімавым, Кудзінавым ды іншымі. Павел Шалесны быў адным з першых. Не такім вядомым у краіне, але гэта зусім ня робіць ягоны выпадак менш значным.

**Сяргей ШАЎЦОЎ**

# Пра дробязі, якія гавораць так шмат,

## альбо Чаму мастак Алесь Пушкін адмовіўся ад прэзідэнцкага "падарунку"

Вядомы беларускі мастак Алесь Пушкін адмовіўся ад падарунку дзяржавы ў гонар 60-годзьдзя Саюзу мастакоў, сябрам якога ён зьяўляецца. Да юбілейнай даты быў выдадзены шыкоўны даведнік са зьвесткамі пра біяграфію і творчасьць прыкладна тысячы сяброў творчага саюзу. Усё выглядае прыгожа: партрэты мастакоў, каляровыя рэпрадукцыі іхніх твораў... Аднак для Алеся Пушкіна ды іншых творцаў, вядомых сваімі патрыятычнымі поглядамі і беларускай сьвядомасьцю, ні добрая папера, ні яркія фарбы, ні якаснае афармленьне ня сталі ўцехай: за вонкавым бляскам сьвяточнай аздобы і Пушкін, і многія ягоныя калегі ўбачылі ганьбу для Беларусі і сябе асабіста.

Па-першае, калі зьбіраліся зьвесткі для выданьня, кожны мастак павінен быў прадставіць свой твор па ўласным жаданьні. Але замест сваёй карціны "Пад рускімі ботамі" Алесь Пушкін знайшоў у кнізе... здымак фрэсак, якімі некалі аздобіў мастацкі ліцэй у Мінску. "Такая замена была зробленая без ніякага ўзгадненьня са мною," – заявіў мастак, расцаніўшы гэты факт як праяву цэнзуры і парушэньне сваіх аўтарскіх правоў. Відавочна, што зьмены ў зьмесьце даведніка былі зробленыя выдаўцамі з "палітычнай прычыны". Якія могуць быць "рускія боты" у час "інтэграцыі" і "далейшага яднаньня з Расіяй"?!

Па-другое, пры складаньні даведніка з мастакамі не ўзгаднялася адна "дробязь" – прысутнасьць на першай старонцы кнігі партрэту прэзідэнта Лукашэнкі і ягонага віншавальнага звароту да беларускіх творцаў. "Гэта проста зьдзек над намі! — лічыць Алесь Пушкін. – Словы пра свабоду і незалежнасьць Беларусі нам кажа чалавек, які зачыняе выставы мастакоў, нішчыць усё беларускае, перасьледуе нацыянальную творчую інтэлігенцыю..."

За два дні да Новага году А.Пушкін завітаў да старшыні Саюзу мастакоў Генадзя Буралкіна, каб, дарэчы, у прысутнасьці журналістаў, задаць яму некалькі пытаньняў. Як паведаміў старшыня СМ, грошы на выданьне даведніка (каля 4,5 мільярдаў рублёў) выдаткавалі Савет Міністраў Беларусі ды "фонд падтрымкі культуры прэзідэнта". Агаворка з назовам фонду (ён афіцыйна "пры прэзідэнце") яскрава адлюстроўвае сітуацыю. Хто плоціць – той і заказвае "музыку". Тым ня менш, на думку сп.Буралкіна, "мы павінны сказаць уладам дзякуй, бо даведнік пра Саюз мастакоў мог бы зараз ня выйсьці наогул". Між іншым, рашэньне аб друкаваньні кнігі ў гэткім зьмененым выглядзе прымалася Радай Саюзу мастакоў без уліку думкі іншых сяброў творчага аб'яднаньня...




Генадзь Буралкін ня лічыць тое, што адбылося, ганьбай для Саюзу. Ён спаслаўся ў размове з намі на прыклад Саюзу мастакоў суседняй Украіны, які выдаў падобны ж зборнік з віншаваньнем украінскага прэзідэнта Леаніда Кучмы. Зразумела аднак, што гэтая паралель моцна "кульгае". Дзейнасьць прэзідэнта Украіны ніяк нельга параўноўваць з палітыкай прэзідэнта Беларусі...

Алесь Пушкін урачыста ўручыў старшыні СМ толькі што атрыманы ім "падарунак", прапанаваўшы пакінуць яго сабе на памяць. Са свайго боку магу прадказаць, што некаторыя калегі Пушкіна палічаць яго "няўдзячным", яго імя магло ня трапіць у гэтае выданьне ўвогуле, але – патрапіла, напэўна, для дэманстраваньня айчыннае "дэмакратыі". Алесь Пушкін вядомы сваімі палітычнымі акцыямі мінулых гадоў, а таксама асуджэньнем па палітычных матывах (1989 г.) на ўмоўны тэрмін. Уладамі была зачыненая галерэя "У Пушкіна" у Віцебску. Пасьля арышту ў 1995 г. маладых паэтаў і мастакоў – удзельнікаў I з'езду беларускіх патрыётаў. А.Пушкін вядомы таксама тым, што малюе абразы і расьпісвае цэрквы і касьцёлы ў беларускіх гарадах і вёсках. Мастак сьцьвярджае, што палітыка – не ягоная сьфера дзейнасьці, але ўлады самі вымушаюць творцаў рэагаваць на створаныя ў краіне ўмовы няволі і ганьбы.

На жаль, частка інтэлігенцыі зносіць апляўуху і зьнявагу іхняе годнасьці моўчкі. Юбілейны даведнік Саюзу Мастакоў увойдзе ў гісторыю як сьведчаньне гэтага.

**Тацяна ЖДАНОВІЧ**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар.1)

*31 сьнежня 1998 г.* ноччу прэс-сакратар грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97» Алег Бябенін быў затрыманы міліцыяй на Кастрычніцкай плошчы Мінску, дзе абывалася сьвяткаваньне Новага года. Прычынай затрыманьня стаў ярка-аранжавы сьцяг з вывай сімвалу «смайлік» (ад англійскага — усьмешка), які шырока выкарыстоўваецца ў інтэрнэтаўскіх зносінах. З гэтым сьцягам А.Бябенін гуляў па плошчы ў кампаніі сваіх сяброў, якія маюць непасрэдныя адносіны да Інтэрнэту. Але супрацоўнікі міліцыі вырашылі, што выява на сьцягу не адпавядае сьвяточнаму настрою. Менавіта гэтак падпалкоўнік міліцыі спадар Гірэль матываваў сваё патрабаваньне скруціць сьцяг. А.Бябенін адмовіўся гэта зрабіць. Тады супрацоўнікі міліцыі пачалі адбіраць сьцяг з ужываньнем фізічнай сілы, пры гэтым пырснулі ў твар А.Бябеніну з газавага балончыка. А.Бябенін у сьпецыяльнай машыне быў дастаўлены ў апорны пункт міліцыі, дзе яго пратрымалі каля 40 хвілінаў.

*5 студзеня* Беларускі Хельсінкскі Камітэт правёў віншаваньне школьнікаў — пераможцаў конкурсу «Я маю права». 24 вучні былі ўзнагароджаныя каштоўнымі падарункамі і ганаровымі граматамі. Сьвята адбылося ў музеі Янкі Купалы.

*6 студзеня* раённы выканаўчы камітэт г.Смаргонь забараніў актывістам Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» правядзеньне пікету з мэтай «выказаць пратэст супраць здрадніцкіх дзеяньняў прэзідэнта Лукашэнкі ў адносінах да Беларусі». Пікет павінен быў адбыцца 17 студзеня.

*10 студзеня* Вярхоўны Савет 13-га скліканьня абвясьціў дату прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны адбыцца 16 траўня 1999 г. За гэтае рашэньне прагаласавалі 44 дэпутаты, якія сабраліся на сваё пасяджэньне ў мінскім гатэлі «Турыст». Пракуратура Беларусі выступіла з заявай, у якой сказана, што дзейнасьць па арганізацыі датэрміновых выбараў прэзідэнта рэспублікі не адпавядае Канстытуцыі Рэспуб-



*Мінск. Сьнежань 1998-га году...*

# Як гэта было...

(Пачатак на стар. 3)

суд, пэўна, быў вызначаны загадзя, засталося толькі яго аб'явіць. Судзьдзя называе мне пакараньне: пяць сутак арышту з моманту затрыманьня. Дзякуй і за тое, бо магло быць і дзесяць, і пятнаццаць... А так мне застаецца правесьці ў ня самай горшай кампаніі ўсяго двое сутак (надзеі на "добрую кампанію" былі марнымі — усіх нас раскідалі па розных камерах).

Пасьля суда нас вязуць у Савецкі РАУС. Там нас сустракаюць родныя, сябры і прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў "Хартыя-97" і "Вясна-96". Некаторы час сядзім у боксе РАУСу, пакуль шукаюць машыну, каб адвезьці ў турму. Нас, дарэчы, засталося чацьвёра. Адзін патрапіў да больш "гуманнага" судзьдзі, які даў яму толькі штраф у 5 мільёнаў рублёў (сярэднямесячны заробак у Беларусі — *рэд.*).

Нарэшце мы зноў у сьпецпрыёмніку. Афармляюць нас культурна, бяз сьпешкі. Потым прадстаўнікі "Хартыі-97" уручылі кожнаму з нас па пакету з харчамі.

Перад раскідкай па камерах нас зноў саджаюць у адзін бокс. Самы вопытны з нас Зьміцер Бандарэнка — кіраўнік Фонду падтрымкі незалежнае прэсы — дае парады, як сябе паводзіць у падобных сітуацыях. Хлеб у нашых пакетах смачна пахне, і я чую аднекуль збоку: "Дзед, дай паесьці, трое сутак ня елі..." Аддаю бохан хлеба, вяндліну, яблыкі, пачак цыгарэтаў бліжэйшаму з часовых "калегаў". У адказ чую: "Дзякуй..."

Першага забіраюць Бандарэнку. Мяне — апошнім. Вядуць некуды наверх. Там здымаюць адбіткі пальцаў і далоняў. Рукі робяцца чорнымі ад фарбы. Пытаюся, дзе б іх памыць. Адказваюць у камеры , там павінны быць сода і мыла (не было ні аднаго, ні другога, давялося выціраць рукі газетамі).

Прывялі мяне ў камеру нумар адзінаццаць. Вітаюся: "Жыве Беларусь!" "Палітычны? — пытаюць. — З БНФ, пэўна?" "Так", — адказваю. "Тады займай месца Шчукіна — другое ад вакна..."

У камеры 16 чалавек. Вісіць шчыльны сіні дым ад цыгарэтаў з начыньнем з цукру, вапны і нейкага парашку, ад якога зэкі "балдзеюць". Яшчэ ў камеры ўстойлівы пах парашы і шматслойны расейскі мат. Я ў такім месцы ўпершыню і таму трымаюся парады Бандарэнкі: з усімі толькі на "вы", нікому не задаваць ніякіх пытаньняў, адказваць толькі па неабходнасьці. Сядзяць тут у асноўным тыя, каму прысуджана 15 сутак арышту і больш. Усе бледныя, шмат хто без перастанку чэшацца. Ні прагулак, ні лазьні, ні нават мыла не дазволена. Кормяць, кажуць, праз дзень. За што сядзяць — ніхто не гаворыць. Здагадваюся з урыўкаў размоў, што ў асноўным тут алкаголікі ды валютчыкі. Вылучаўся сярод усіх студэнт-эфіоп (ня з тых, што былі з намі ў першы дзень; тыя былі былымі студэнтамі, якія дамоў не хацелі вяртацца). Ён атрымаў 15 сутак за спробу абмену валюты. Пэўную частку рускамоўнай лексікі ён ужо добра вывучыў і таму стаў у камеры аб'ектам асаблівай увагі. Слухаючы яго, ніяк нельга было стрымацца ад сьмеху...

Назаўтра раніцай мяне выклікаюць да дзьвярэй: "Хто тут Карызна? Вам перадача". Чытаю — ад Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". У зэкаў цікавасьць: што за арганізацыя такая. Тлумачу што ведаю. У камеры адразу знаходзяцца некалькі чалавек, якія заяўляюць, што іх правы так-

 

лікі Беларусь і дзеючаму заканадаўству.

*11 студзеня* ў Савецкім судзе г. Мінску адбыўся судовы працэс па адміністратыўнай справе Валерыя Шчукіна — журналіста, дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Судзілі В. Шчукіна за ўдзел ў акцыі грамадзянскага непадпарадкаваньня, якая адбылася 25 сьнежня, і была накіраваная супраць інкарпарацыі Беларусі ў Расію. У пратаколе затрыманьня, які фігураваў на судзе, сказана, што на на прапанову супрацоўнікаў міліцыі пакінуць праезную частку вуліцы «В.Шчукін адказаў катэгарычнай адмовай і пачаў выкрыкваць «Жыве Беларусь!». Адвакат даказвала, што акцыя 25 сьнежня не зьяўлялася пікетам, а Шчукін, у сваю чаргу, сьцьвярджаў, што гэта быў яго асабісты, а не грамадскі пратэст. На судзе Шчукін выступіў з прамовай, дзе абвінаваціў супрацоўнікаў міліцыі ў парушэньні 8 крымінальных і 6 адміністратыўных артыкулаў, якія былі дапушчаныя пры ягоным затрыманьні. Нягледзячы на гэта, в.а. судзьдзі А.Ганчарык палічыў Шчукіна вінаватым і прысудзіў яму 10 сутак адміністратыўнага арышту.

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

сама парушаныя, і яны вартыя перадачаў...

Прыносяць "абед": кашу пшонку і кубак гарбаты. Гэта на ўвесь дзень. Дзялюся сваёю перадачай з сукамернікамі: у мяне гэты дзень апошні, заўтра на волю. На ноч нацягваю на вушы сваю шапку, каб нічога ня чуць, і засынаю.

Раніца. У гэты дзень з нашае камеры вызвалялася акрамя мяне яшчэ двое чалавек. Першы зьнік непрыкметна, ні з кім не разьвітаўшыся. Другі цырымонна абыходзіць усіх, падае руку. Мне яшчэ і сказаў: "Жыве Беларусь!" Іх вызваляюць ранкам, а мне трэба чакаць вечару. Прыйшлі за мною роўна ў 18.00. Разьвітваюся, жадаю ўсім шчасьлівага Новага году, які надыходзіць праз дзень. Іду дворыкам і раптам чую гучны крык: "Жыве Беларусь!" Азіраюся, бачу зэкаў маёй камеры, якія выглядваюць з-за кратаў. Паварочваюся да іх, падымаю правую руку з двума пальцамі літарай "V" і адказваю: "Жыве вечна!.."

## Ліст у рэдакцыю

# Права абараняць — пазбаўлены...

*Рэдактару бюлетэню "Права на волю" Алесю Бяляцкаму.*

Паважаны Алесь!

На жаль, я не зьяўляюся пастаянным чытачом вашага бюлетэню. Больш за тое, 19 нумар за кастрычнік 1998 году патрапіў да мяне зусім выпадкова. Аднак я вельмі рады самому факту існаваньня вашага выданьня.

Зьвярнуцца да Вас мяне прымусілі радкі, прачытаныя ў артыкуле Андрэя Мельнікава "Вандроўка за краты". Мяркуючы па ўсім, яны адносяцца да мяне. Пэўна, Андрэй Мельнікаў, адносна якога была ўзбуджаная крымінальная справа, заявіў хадайніцтва аб тым, каб абарону яго ажыцьцяўлялі адвакаты па ягоным выбары. У ліку іншых было названае і маё прозьвішча. З прачытанага мною, на жаль, нельга меркаваць, хто менавіта ўвёў у зман А. Мельнікава адносна майго прафесійнага стану. Аднак гэта ня важна. Зусім відавочна, што правы арыштаванага, у тым ліку права на абарону, былі парушаныя.

З 1 ліпеня 1997 году, гэта значыць з моманту ўступленьня ў сілу дэкрэту "Аб некаторых мерах па ўдасканальваньні адвакацкай і натарыяльнай дзейнасьці ў Рэспубліцы Беларусь", грубым чынам былі парушаныя канстытуцыйныя правы ня толькі асобаў, якія перасьледуюцца ўладамі, але і адвакатаў. Прыватная адвакатура, якая складала эліту адвакацкага корпусу, высока прафесійная, незалежная і бясстрашная, была ліквідаваная. Адвакатам, якія праявілі высокую грамадзянскую пазіцыю, прынцыповасьць у адстойваньні правоў і свабодаў грамадзянаў, было адмоўлена ў прыёме ў калегіі адвакатаў. У ліку такіх аказаўся і я. Мне не даравалі крытыку міністэрства юстыцыі, руціннасьці і нежыцьцёвасьці, трусьлівасьці калегій адвакатаў, а больш за ўсё — выступленьняў з шэрагам артыкулаў у газетах "Частный адвокат", "Свободные новости", "Аргументы и факты", "Навіны", у якіх я выклаў свае погляды на праведзеныя зьмены і рэзкі пратэст па прычыне масавых парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі.

На цяперашні момант склалася такая сітуацыя. Я і шэраг іншых адвакатаў маем раней выдадзеныя ліцэнзіі на права ажыцьцяўленьня адвакацкай дзейнасьці, якія не ануляваныя і тэрмін якіх ня скончыўся. У адпаведнасьці з артыкулам 7 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адвакатуры", мы захавалі статус адвакатаў як пасьля прыняцьця дэкрэту, так і пасьля ўнясеньня зьменаў у закон аб адвакатуры. Аднак у парушэньне артыкулу 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і шэрагу артыкулаў закону аб адвакатуры, правы грамадзянаў на юрыдычную дапамогу і правы адвакатаў на аказаньне юрыдычнай дапамогі паўсюдна ў нашай краіне парушаюцца.

У прыёме ў калегію адвакатаў мне адмоўлена па матывах адсутнасьці вакансіяў. Мае скаргі былі пакінутыя без задавальненьня і выклікалі толькі хвалю шэльмаваньня, як, дарэчы, і ў адносінах да шэрагу іншых маіх калегаў. Некаторых з іх па надуманых прычынах пазбавілі ліцэнзіяў. Пазбавіць ліцэнзіі мяне не змаглі, але і працаваць не даюць. Прававога шляху абароны нашых правоў няма. Гэта вельмі характэрна для сёньняшняга становішча ў нашай дзяржаве. Яўным зьдзекам над намі зьяўляецца тое, што ў калегіях адвакатаў знаходзяцца асобы, якія раней прыцягваліся да крымінальнай адказнасьці за цяжкія злачынствы, асобы, якія адбывалі пакараньне ў месцах пазбаўленьня волі, прычым прысуды ў адносінах да якіх не адмененыя. Насуперак прамой забароне, якая маецца ў законе аб адвакатуры, ім выдадзеныя месцы ў калегіях адвакатаў. Гэтыя факты яскрава сьведчаць пра тое, як улады на справе змагаюцца з крыміналам і, хто, на іх погляд, ім больш небясьпечны.

Нягледзячы на тое, што прайшло паўтары гады з таго часу, як я пазбаўлены магчымасьці займацца адвакацкай дзейнасьцю, людзі працягваюць настойваць на тым, каб абарону іх правоў ажыцьцяўляў я. Кожны раз ім незаконна адмаўляюць у гэтым, як і было са спадаром Мельнікавым. Паўтары гады я знаходжуся бяз працы, а мая сям'я, у тым ліку двое маіх маленькіх дзяцей 7 і 6 гадоў, па сутнасьці бяз сродкаў да існаваньня.

Статус адваката я маю з 1973 году. Вопыт практычнай працы ў мяне больш за 25 гадоў. Адстойваючы свой чалавечы гонар, я маю намер усяляк дабівацца аднаўленьня незалежнай адвакатуры, права на працу ў ёй, аднаўленьня Канстытуцыі 1994 году і ўсіх легітымных органаў у нашай краіне. Зрабіць усё гэта ў маштабах дзяржавы можна толькі ў тым выпадку, калі кожны адчуе сваю грамадзянскую адказнасьць за лёс сваіх дзяцей, за лёс Айчыны.

Жыве Беларусь!
З павагай

**Уладзімір САЛАЎЁЎ**

*г. Орша*







 

**Андрэй Мельнікаў**

# Вандроўка за краты

Сьледчы Дзьмітры Дзьмітрыевіч Турач "прыняў" мяне на другім паверсе будынку ўпраўленьня КДБ па Гродзенскай вобласьці. Допыт павінен быў праходзіць у прысутнасьці адваката і перакладчыка — паколькі Турач, па ягоных словах, беларускай мовай не валодае. Перакладчыка даводзіцца крыху пачакаць, а адвакаты, якіх я назваў, выяўляецца, ня маюць права мяне абараняць. Даю імёны і прыкладныя каардынаты новых адвакатаў — маіх знаёмых з Мінску і Баранавічаў. Сьледчы, пакуль чакаем перакладчыка, нібыта спрабуе зьвязацца з імі.

Перакладчыца, жанчына гадоў пад трыццаць, зьяўляецца неўзабаве. Пачуўшы пра мае "адвакацкія" клопаты, яна раіць узяць гродзенскага адваката: і сітуацыю мясцовую будзе ведаць, і таньней абыдзецца. Я прыгадваю пра майго сваяка, які ўжо гадоў трыццаць жыве ў Гродне, і пагаджаюся з ёю: знайсьці адваката для мяне яму будзе прасьцей. Турач бярэцца тут жа пазваніць майму сваяку і нават дае мне колькі хвілінаў паразмаўляць з ім. Затым дамаўляюся з перакладчыцай, каму яна можа паведаміць пра мяне. Беларускі сьвет цесны нават у трохсоттысячным Гродне. І,вядома ж, мая перакладчыца ведае і Шалкевіча, і Дануту Бічэль, і Чобата... Паколькі майму праву даваць паказаньні па-беларуску ніхто не перашкаджае, то вырашаю далей за яго не змагацца. Я ня блага ведаю і рускую мову.

У кабінет да сьледчага заходзіць мой сваяк, здаецца, ці ня больш за мяне заклапочаны маім становішчам. Адваката пакуль назваць ён ня можа, але абяцае знайсьці да панядзелка. Такім чынам, усе "арганізацыйныя пытаньні" майго турэмна-допытнага забесьпячэньня вырашаныя і я вяртаюся ў "хату" з прыўзьнятым настроем і цьвёрдай упэўненасьцю, што ўжо праз некалькі дзён буду на волі...

Субота і нядзеля ў турме — "мёртвыя" дні. Ні допытаў, ні перадачаў. Ранішнія праверкі ідуць па скарочанай праграме: бывае нават з "хаты" не выводзяць. Але ёсьць у гэтыя дні для мяне і нешта новае ў турэмным жыцьці — вывад на "гулку" (прагулка ў турэмным дворыку).

Калектыў "хаты" можа ісьці на "гулку" у поўным складзе, а можа і падзяліцца на часткі: тых, хто ідзе гуляць, і тых, хто застаецца ў "хаце". Але ў любой з частак павінна быць ня менш за два чалавекі: у адзіноце ў турме можна застацца толькі ў "стакане" альбо на "кічы".

"Гулачных" дворыкаў у гарадзенскай турме сямнаццаць. Плошча іх ад чатырнаццаці да сарака чатырох метраў. Нумар дворыка і ягоная плошча пазначаныя на сьпецыяльнай шыльдачцы, прымацаванай да абабітых бляхаю дзьвярэй. Сам дворык — забетанаваная зьнізу і закратаваная зьверху прастора. Сьцены яго недзе пад чатыры метры ў вышыню. "Ветэраны" турмы кажуць, што раней сьцены былі цагляныя, а цяпер яны густа заляпаныя скамянелым цэментным растворам. Гэта дае дадатковую зручнасьць зэкам: утвараюцца розныя дзіркі і дзірачкі, у якія можна схаваць цыгарэту, запалкі, "малявы" для тых, хто выйдзе на "гулку" пазьней. Вядома, усё гэтае багацьце можа дастацца мянтам і баландзёрам, калі яны возьмуцца шманаць альбо прыбіраць дворык, але пад такою пагрозаю знаходзіцца ўся турэмная "пошта", якім бы чынам яе ні дасылалі.



"Мулькі" пакідаюцца ў дворыку звычайна тым адрасатам, да якіх паштовага шляху проста не існуе: напрыклад, у другі бок корпусу ці ў іншы корпус. "Хата", ад якой такі шлях ёсьць, абавязаная падабраць "мульку" і пераслаць яе. У дворыках пакідаюць паведамленьні і калі месцазнаходжаньне адрасата невядомае. Для гэтых мэтаў скарыстоўваецца драўляны дзьвярны аклад. Тут крэмзаюць надпісы тыпу: "Мірон, колькі далі?" альбо "Арнольд, 99" (значыць, Арнольд знаходзіцца ў 99 "хаце")...

За першыя свае два выходныя ў турме я перасьціраў усю вопратку, а потым яшчэ і падрамантаваў яе. У "хаце" было досыць пральнага парашку і гаспадарчага мыла, а два падпалкоўніцкія кіпяцільнікі даволі хутка забясьпечвалі мяне гарачаю вадою. Была толькі адная нязручнасьць: каб іголку не канфіскавалі шыць даводзілася маскіруючыся.

Адсутнасьць асабістае "шконкі" асабліва не дапякала мне. На ноч "хата" брала драўляны стэлаж-"газету". Мы разьмяшчалі яго паміж верхнімі "шконкамі" і дзеля страхоўкі прывязвалі адным-двума рушнікамі. Наверх я браў з сабою кніжку і чытаў гадзінаў да адзінаццаці. Затым "медытаваў" некалькі хвілінаў, седзячы па-турэцку, і клаўся спаць. Банкір звычайна яшчэ глядзеў тэлевізар.

Шэсьць з паловаю гадзінаў сну мне хапала, каб адаспацца. І ў суботу, і ў нядзелю я ўставаў яшчэ да пад'ёму. Гэта выклікала незадаволенасьць і "псіхі" валасатага падпалкоўніка. Аказваецца, я груба парушыў турэмныя "паняцьці", перашкаджаючы самаму салодкаму ранішняму сну астатніх. Матаю гэта на вус і пачынаю ўставаць па званку. Але праз месяцы зьняволеньня даведваюся, што па "паняцьцях" зэк можа ўставаць калі захоча, і наязджаць на яго за гэта — натуральны "касяк". У турме ўсе роўныя. З гэтым, праўда, цяжка пагадзіцца людзям, звыклым да высокіх пасадаў і вялікіх пагонаў, якія ўсё жыцьцё лезьлі па службовай лесьвіцы, зямлю грызьлі, дупы лізалі, а тут — бац! — і ты такі як і ўсе...

Стэлаж-"газета" сваю другую назву апраўдвае. Як і дзьвярны аклад у "гулачным" дворыку, ён запоўнены самай разнастайнай інфармацыяй. Тут і вершыкі, часам вельмі і вельмі някепскія, і "спробы пяра". Лухты хапае, аднак вялікая плошча "газеты" робіць яе выключна зьместоўнай. Да таго ж, па першым часе, штовечар стэлаж "прыходзіць" новы і чытаць яго цікава. Потым, калі тая ж самая "газета" трапляе да цябе трэці ці чацьвёрты раз, цікавасьць да яе зьнікае. А ўвогуле — "газеты", як нішто іншае, фіксуюць і адлюстроўваюць турэмны фальклор, турэмную міфалогію. Прычым не на хутказьнішчальнай паперы, а на высакародным дрэве...

Дарэчы, хапае ў "хаце" і звычайных газетаў. Іх прыносяць штодзень, апроч выходных. Па адной. Гэта бывае "Советская Белоруссия" альбо "Рэспубліка", "Народная газета" альбо "Знамя юности", "Биржи и банки" альбо "Гродненская правда". Праўда, прыносяць ня ўсім. З газетаў добра рабіць прылады для наладжваньня "дарогі". І ў "хаты", якія "накрылі" за гэтай справай, газеты не даюць месяцамі. Нам пашанцавала: наша "хата" тупіковая і газетаў у нас шмат.

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 15-24)*



Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88.E-mail:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*